www.nv-online.info

№ 96 (4245)

5 снежня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Вы падпісаліся на «Народную Волю» – парайце і пры магчымасці дапамажыце гэта зрабіць родным, блізкім, сябрам




*Так, наша сіла – у сяброўстве з Вамі, шаноўчыя чытачы! Чым Вас будзе болей – тым больш эфектыўнай стане наша творчая праца. Тым больш моцным рэхам яна адгукнецца ў вялікай справе па пабудове дэмакратычнай Беларусі, умацаванні дабрабыту кожнага, хто жыве на роднай зямлі.*

*Рэдакцыя выказвае падзяку тым, хто падпісаўся ўжо на "Народную Волю" на першую палову 2018 года. Адначасова просім: калі ласка, парайце гэта зрабіць родным, блізкім, сябрам. Магчыма, у некага з іх ёсць фінансавыя праблемы. Калі Вы здольны дапамагчы – афарміце ім падпіску на любы тэрмін: на паўгода, на квартал, на больш кароткі час. Гэта будзе Ваш найлепшы навагодні падарунак.*

*"Народная Воля" працягвае руку сяброўства ўсім, усім, усім!*

ЧУЛІ?

## Аляксандр Ярашук і далей будзе кіраваць Беларускім кангрэсам дэмакратычных прафсаюзаў

У Беларусі палохаючая стабільнасць не толькі ва ўладных структурах, але і ў грамадскіх. Вось і Аляксандр Ярашук у шосты раз абраны на пасаду старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.

З прысутных на з'ездзе 54 дэлегатаў у галасаванні бралі ўдзел 47, у падтрымку Ярашука выказаліся 37.

**(Падрабязны расказ пра X з'езд асацыяцыі «Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў Беларусі» чытайце на 6-й стар.)**

СКАЗАНО!

## О табачном бизнесе...

На совещании по табачному бизнесу А.Лукашенко сказал: «*Ясно, что это подакцизный товар, что бюджет от этого получает огромные средства. В этом году мы ожидаем 1 миллиард белорусских рублей, то есть 0,5 миллиарда долларов. Это большие налоговые поступления*».

Однако при этом заметил, что лично он не приемлет тех, кто курит или злоупотребляет алкоголем.

Говоря об экспорте табачной продукции, Александр Григорьевич подчеркнул: «*Ко мне даже в последнее время обратились заграничные предприниматели о том, что наши предприятия не хотят продавать продукцию на экспорт. Есть большие ниши, даже в Европейском Союзе. Они нам выгодны. Почему мы не хотим их заполнять? Я поручал проверить эту информацию. Сегодня об этом доложат. Речь идет об одном из значительных источников пополнения бюджета. Поэтому, если есть спрос, надо продавать табачные изделия. Не продадим мы, продадут другие. Рынки будут заняты*».

ТРЫВОЖНАЯ ТЭМА

## Шлях... у пекла?

Я нагадаю, што ў 70–80-я гады мінулага стагоддзя меліярацыя зямель (са спрамленнем рэчышчаў малых і вялікіх рэк) настолькі скампраметавала сябе ў народзе, што праведзеная 11 сакавіка 1988 года ў Доме літаратара Саюзам беларускіх пісьменнікаў міжрэспубліканская канферэнцыя з удзелам трох-чатырох міністраў, такой жа колькасці акадэмікаў ды спецыялістаў рознага профілю, з дакладам пісьменніка В.Ц.Якавенкі "Ці ёсць у нас канцэпцыя гаспадарання?" мела вялікі поспех.

Міністрам і акадэмікам – прыхільнікам глабальнага асушэння Палесся і ператварэння раней паўнаводнай ракі Прыпяць у канаву – давялося адступіць ад сваіх намераў і літаральна капітуляваць, падпісаўшы заяву аб тым, што яны згодны з рашэннем канферэнцыі, якая ставіла крыж на чарговым "праекце веку". Так прыкладна чвэрць стагоддзя таму было спынена антынавуковае па сутнасці крамсанне рэчышча р.Прыпяць, яе абвалаванне і суцэльнае асушэнне шырокай, разложыстай поймы... Тады мы пазбеглі ператварэння Палесся ў засушлівую зону, у сапраўдную і жорсткую пустыню.

Сённяшнія ж кіраўнікі міністэрстваў і асобных гаспадарак, напэўна, забыліся на той урок. Для некаторых пустым гукам з'яўляецца нейкая там канцэпцыя гаспадарання на аднойчы дадзенай ім у карыстанне зямлі. Таму і пачынае сям-там ва ўстановах на афіцыйных пасяджэннях і ў кулуарах абмяркоўвацца "вопрос о реализации проекта по восстановлению магистрального водного пути Е-40", ад Віслы да Чорнага мора. Праект папахвае гістарычнай рамантыкай: маўляў, па-новаму з варагаў ды ў грэкі. А яшчэ больш – грашыма! Ведаеце, колькі мільярдаў еўра могуць асесці ў кішэнях удзельнікаў праекта транскантынентальнай воднай плыні! Таму скрозь, ва ўсіх трох краінах, знойдуцца "спецыялісты", якія клюнуць на гэтую прынаду.

Спроба абмеркаваць няпростае пытанне прайшла на мінулым тыдні на пасяджэнні Грамадскага каардынацыйнага экалагічнага савета пры Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Не ўсе былі гатовы да размовы, але, калі з-за бурных пачуццяў у канферэнц-зале пачаў утварацца шум, кіраўнік установы супакоіў: рана хваляваецца, ніякага рашэння ўрадам пакуль не прынята, здаецца, астылі да гэтага праекта і на Захадзе... Чуліся і іншыя галасы: грошы на гэты праект палякам ужо адпушчаны, і ніхто авантуру Е-40, падкінутую адтуль, для Беларусі не адмяняў...

Чысцейшай вады праўда застаецца ў тым, што, калі праз Палессе пракласці паглыблены трансгранічны водны канал, параходы спачатку могуць прайсці, а потым яго зноў давядзецца паглыбляць... Урэз грунтовых вод скрозь значна апусціцца, і першымі высахнуць і знікнуць лясы, а за імі і ўся астатняя расліннасць Палесся. Такое засохлае і загубленае Палессе негатыўна адаб'ецца на клімаце Еўропы. Усе наступствы ніхто цяпер не прадкажа.

За доказамі такой перспектывы не трэба далёка хадзіць, бо яна ўжо сотні разоў даказвалася практычна самімі меліяратарамі на нашай зямлі. Адно – ці хочуць яны яе ўлічваць?

Пытанне пра водны шлях Е-40 было вынесена на абмеркаванне грамадскага савета пры Мінэкалогіі своечасова. Грамадскасць, як і ўлады, рэспубліканскія і мясцовыя, сёння не могуць стаяць убаку, калі размова ідзе пра занядбанне і руйнаванне прыродных ландшафтаў нашай зямлі, нашай краіны. Хопіць здзеку з прыроды!

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, член Грамадскага каардынацыйнага экалагічнага савета пры Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

АД РЭДАКЦЫІ

Мяркуем, Васіль Якавенка агучыў праблему, якая ў бліжэйшы час можа ўскалыхнуць усю Беларусь. "Народная Воля" прадастаўляе свае старонкі для абгрунтавання той ці іншай пазіцыі навукоўцам, спецыялістам-эколагам, кіраўнікам дзяржаўных структур, палітыкам, шараговым грамадзянам, усім, каго хвалюе лёс Беларусі.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Пожар в чужой стране – или чистота в собственном доме?

Поссорился в интернете с земляком-гродненцем. Ах, – говорит он, – какой молодец Саакашвили! Ведет непримиримую борьбу с коррупцией! Марш недовольных провел – добивается импичмента президента Украины!

Не вызывает у меня эта доблесть Михеила Николозовича ни малейшего восторга. И дело вовсе не в том, что Порошенко кажется мне идеалом правителя. Просто, как писал нобелевский лауреат Иосиф Бродский, ворюги мне милей, чем кровопийцы. Импичмент, предъявленный олигарху, всенародно избранному главой украинского государства («бачилы очи, що куповалы» – видели глаза, что покупают), в данном случае совсем меня не обрадовал бы. В Украине идет война, а киевлян реально подталкивают к смещению какого ни есть, но легитимного в глазах мирового сообщества и всей страны главнокомандующего украинской армией.

И кто взамен? Неугомонная Юлия Володимировна Тимошенко, ночью летающая над Диканькой на метле? Обидевшийся на весь мир, но не решающийся вернуться на родную грузинскую землю лихой козак Михеил Саакашвили? Вареником прыгнувший в Ростов Виктор Янукович? Не пожелаю я этого Украине. Не для того она страдала, чтобы сейчас все эти вот гоголевские ведьмы да чертяки ею управляли. Лучше Порошенко.

Я не об Украине. Я о нас самих. Обо всех нас – постсоветских и от советской ненависти друг к другу никак не могущих избавиться. Все мы хотим научить других жить и тем самым осчастливить их – иной раз против их же воли.

Так проходили уже это. Лев Троцкий призывал: «Железной рукой осчастливим человечество!» «Мы на горе всем буржуям мировой пожар раздуем», – скандируют революционные матросы в блоковской поэме «Двенадцать». А мировой-то пожар – в крови...

Может, ну их, этих самых братьев-«хохлов», пусть сами с собой разбираются? Зачем кликать нам мировую революцию? Они уже договорились: выборы – вот время для разборок. Причем выборы – честные. Попробуй завтра Петр Алексеевич Порошенко попытаться сфальсифицировать результаты голосования – и третьему Майдану быть, и снесет он того Порошенко вместе со всей его шоколадной властью. А наша «диванная сотня» любуется тремя тысячами человек, которые ходят под флагом Саакашвили и требуют смены власти. Я на Майдане Незалежности не меньше трехсот тысяч единовременно видел – это и было требование настоящих перемен. Куда там Саакашвили!..

За украинцев я спокоен. У них все получится. Без нас разберутся. А с нами самими – как быть?

Читаю комментарий министра труда Беларуси Ирины Костевич о том, что, дескать, средняя зарплата «попиццот» (в смысле – по пятьсот долларов, которые нам власть уже в третий раз обещает) – она все равно не каждому даже в столице Беларуси достанется. Что одним – четыре тысячи, а другим – четыреста рублей. Это и есть справедливость?

Декларации о доходах членов украинского правительства, судей, депутатов парламента, государственных служащих всех уровней, прокуроров, генералов, подумать страшно – самого президента Порошенко! – и членов их семей, а также декларации об их собственности висят в свободном доступе в интернете. Любой желающий может посмотреть, чем владеет, например, министр внутренних дел Арсен Аваков – включая коллекцию вин, произведения искусства, шубу жены и автомобиль сына. И мир от этого не обрушился. Но если по истечении года при заполнении новой декларации внезапно обнаружится, что районный судья вдруг (!!!) купил квартиру сыну в Киеве, а депутат потратил некую сумму на остров в Тихом океане, вопросы, конечно, возникнут.

Вы аплодируете Саакашвили, который под предлогом борьбы с коррупцией хочет отвоевать себе кусок власти? А вам, уважаемый землячок, не кажется, что это мы уже проходили? Попробуйте для начала добиться хотя бы публичности доходов тех, кто считается «слугами народа». Не надо устраивать революцию в чужой стране, которая к тому же ведет войну за свою целостность, – добейтесь миром, чтобы наша собственная власть стала хотя бы наполовину такой прозрачной, как сегодня прозрачна власть украинская. Поверьте, нам не понадобится тогда раздувать мировой пожар, когда мы наведем порядок – только реальный порядок, а не очередную шумную кампанию – в собственном доме. Потому что государство – наш дом, мы в нем хозяева. И если госпожа Костевич – слуга народа, то это мы должны определять ей зарплату, а не она – нам.

А в интернете – да, там куда ни ткни – каждый герой. С зарплатой в лучшем случае в четыреста рублей. Работники IT-сферы – исключение.

ПАРАЛЛЕЛИ

## Самая высокооплачиваемая вакансия в Беларуси

*Всего в стране открыты 55.169 вакансий, а резюме в банке данных Минтруда меньше в десять раз.*

Из всех вакансий лишь 1898, или 3,4%, обещают уровень зарплаты тысячу рублей и выше – тот уровень, до которого белорусские власти обещают добраться в среднем по стране по итогам этого года.

Самая высокооплачиваемая вакансия на сегодня – тренера национальной сборной по биатлону. Такому специалисту обещают зарплату от 21.474 белорусских рублей в месяц, то есть более 10,5 тысячи долларов, сообщает Sputnik.

В топ-3 входит вакансия IT-специалиста – директора для компании на зарплату от 21 тысячи рублей. Требования к соискателю: опыт в IT от десяти лет, владение SCRUM и Canban, а также свободное знание английского и голландского языков.

Третья по уровню зарплаты вакансия – инженера с опытом работы от семи лет, в том числе и за пределами Беларуси. Требуется свободное владение английским. Зарплату обещают от 17,7 тысячи рублей.

В социальной сфере с окладами все несколько иначе. Так, тысячу рублей и выше обещают лишь одному учителю – носителю иностранного языка с опытом работы в международных школах. От 500 долларов и выше готовы платить и 27 врачам, самая высокая зарплата предлагается рентгенологу столичной больницы – от 1074 рублей.

*«Народная Воля»* в Facebook
*www.facebook.com/nv.online.info*
в Vkontakte
*www.vk.com/nvonlineinfo*

АСАБІСТАЕ



## Арцём і Ксенія наспявалі...

Сына ці дачку – Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка пакуль не ведаюць ці не хочуць аб гэтым гаварыць услых. Але вядома, што прыбаўленне ў зорнай пары, якая выступіла сёлета на "Еўрабачанні" з беларускамоўнай песняй, чакаецца бліжэй да лета.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## 3000 долларов – и Ханок ваш!

Один из самых эксцентричных белорусских художников Андрей Смоляк выставил на продажу в своей виртуальной галерее сразу несколько картин. Среди них – необычный портрет народного артиста, популярного композитора Эдуарда Ханка, написанный еще в 2006 году. Его цена – 3000 долларов.



Народная Воля http://www.nv-online.info 5 СНЕЖНЯ 2017 г.

ДЫСКУСІЯ

*14 лістапада ў "Народнай Волі" выйшла чарговая калонка Міхася Скоблы пад назвай "Папаха Цанавы". Неўзабаве рэдакцыя атрымала ліст ад доктара гістарычных навук, прафесара Эмануіла Іофе. Паколькі яго довады патрабуюць каментарыя, то журналіст даў згоду адказаць апаненту непасрэдна праз газету. І адзін, і другі ліст друкуюцца без скарачэнняў і без правак.*

# Паўпраўда горш няпраўды

Шаноўны Іосіф Паўлавіч!

Я – пастаянны падпісчык газеты "Народная Воля" з дня яе заснавання, а калісьці быў адным з яе аўтараў. Паважаю газету перш за ўсё за тры яе якасці: праўдзівасць, аб'ектыўнасць і аператыўнасць інфармацыі.

14 лістапада 2017 года ў газеце "Народная Воля" быў надрукаваны артыкул Міхася Скоблы "Папаха Цанавы", у якой яе аўтар абвінавачвае мяне ў тым, што я напісаў хваласпеўную кнігу аб Лаўрэнціі Цанаве.

Але ж гэта не так, і гэта можа засведчыць кожны чалавек, які ўдумліва, ўсвядомлена прачытае маю кнігу "Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». Акрамя трох год працы ў архівах Беларусі і Расіі, я выкарыстаў велізарную колькасць разнастайных гістарычных крыніц, у тым ліку і мемуары кіраўнікоў органаў бяспекі СССР і БССР.

Значную каштоўнасць уяўляюць інтэрв'ю аўтара кнігі з ветэранамі дзяржбяспекі Беларусі – былымі саслужыўцамі Л.Ф.Цанавы, з людзьмі з яго бліжэйшага акружэння, з віднымі савецкімі военачальнікамі, кіраўнікамі і актыўнымі ўдзельнікамі партызанскага руху і антыфашысцкага падполля на тэрыторыі Беларусі і Расіі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, з віднымі дзяржаўнымі і партыйнымі дзеячамі БССР.

З усяго тэксту маёй кнігі (а гэта 520 вялікіх старонак аб'ёмам 42,25 умоўнага друкаванага аркуша) М.Скобла выхапіў з кантэксту некалькі радкоў аб пазітыўных рысах асобы Л.Цанавы. Гэта абагульненне ад вусных і пісьмовых крыніц, асабліва ад інтэрв'ю.

Так, Л.Ф.Цанава, безумоўна, кат, злачынца, які вінаваты ў многіх палітычных рэпрэсіях, у гібелі многіх людзей з ліку партыйнага і савецкага кіраўніцтва БССР, дзеячаў беларускай і ўсёй савецкай культуры, актыўных удзельнікаў партызанскага руху, мінскага антыфашысцкага падполля і проста грамадзян нашай рэспублікі ў 1939–1951 гадах. Аб усім гэтым я пішу ў сваёй кнізе. Але я не магу на кожнай старонцы пісаць аб Лаўрэнціі Цанаве, што ён кат, дзяржаўны злачынца, мярзотнік "ніжэй плінтуса", сапраўдны вораг беларускага і савецкага народа.

Амаль палову артыкула "Папаха Цанавы" складаюць 11 прыкладаў канкрэтных злачынстваў Л.Цанавы на беларускай зямлі. Яны пачынаюцца словамі "Гэта Цанава...".

У народзе кажуць: "Паўпраўда горш няпраўды". І калі М.Скобла выстаўляе сябе барацьбітом за праўду і справядлівасць, ён павінен прыводзіць усю праўду, а не яе палову. А поўная праўда заключаецца ў тым, што ўсё, што ён прыводзіць у сваім артыкуле, ёсць у маёй кнізе. І Міхась Скобла ўзяў гэта з маёй кнігі, але аб гэтым ён не піша і не дае спасылак на рэцэнзуемую кнігу. А то ў чытача дадзенага артыкула, які не чытаў маёй кнігі, можа скласціся ўяўленне, што я нічога не пішу аб злачынствах Цанавы.

Прывяду вытрымку з артыкула М.Скоблы "Папаха Цанавы", дакладней два няпоўныя абзацы:

"І на сямі валовых скурах не спішаш усіх цанаўскіх "заслугаў". Дзіўна, але, ведаючы пра іх, гісторык Э.Іофе піша: "Когда мне на глаза попадается фраза, что Цанава – организатор массовых репрессий в Белоруссии», то задумываюсь и задаю себе вопрос: "А так ли это было? Ведь очень часто Лаврентий Фомич выполнял установки Москвы…»

Атрымліваецца, выканаўца – не вінаваты! Кат не нясе адказнасці за адсечаныя галовы?.."

Ёсць даследчыкі-прафесіяналы і даследчыкі-дылетанты. У дадзеным выпадку М.Скобла мысліць як дылетант.

Я не здымаю з Л.Цанавы віны за дапушчаныя цяжкія злачынствы, за масавыя рэпрэсіі ў Беларусі. Але справа ідзе аб дакладнасці фразы або фармулёўкі і ў рэшце рэшт аб справядлівасці і аб'ектыўнасці. А яна заключаецца ў тым, што ў большасці выпадкаў Л.Цанава выконваў установкі Масквы, а дакладней Л.П.Берыі, У.М.Мяркулава, В.С.Абакумава і самога І.В.Сталіна. Але ва многіх выпадках ён сам быў арганізатарам рэпрэсій.

Дыленталізм М.Скоблы праяўляецца таксама ў наступнай яго фразе:

"Аўтар кнігі даводзіць, што пік рэпрэсій у Беларусі прыпаў па дацанаўскі час, калі тут карныя органы ўзначальвалі Берман і Наседкін".

Гэта не я "даважу", але аб гэтым вам скажа кожны прафесійны даследчык, кожны гісторык спецслужб, таму што гэта праўда, што гэта аб'ектыўная выснова.

Ва многім беспадстаўныя абвінавачванні М.Скоблы закранаюць мой гонар як вучонага і выкладчыка. Таму я прашу Вас апублікаваць мой адказ на гэты артыкул.

**З пашанай да Вас –**

**Эмануіл Рыгоравіч ІОФЕ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

# Кожны дуб сваёй дуброве шуміць

Дзіўныя аргументы выкарыстоўвае Эмануіл Іофе, пішучы пра каштоўнасць сваёй кнігі. Аказваецца, праўдзівымі крыніцамі інфармацыі пры яе напісанні сталі "інтэрв'ю з ветэранамі дзяржбяспекі Беларусі – былымі саслужыўцамі Л.Ф.Цанавы, з людзьмі яго бліжэйшага атачэння".

Але нездарма ў народзе кажуць: кожны дуб сваёй дуброве шуміць. Так атрымалася і з тымі ветэранамі – кожны прадказальна пахваліў свайго былога шэфа, пры якім, відаць, атрымліваў высокія званні, узнагароды і спецпайкі. А пазней – як вынік – персанальную пенсію. У Рыгора Барадуліна ёсць пра такіх "заслужаных пенсіянераў" верш: "На пенсіі, як на праталінцы / Пражорлівыя груганы, / Сыцеюць берыеўцы, сталінцы... / Цяпер яны ніжэй за агнецаў – / Стараліся ў імя дабра". / Але рука дагэтуль цягнецца / Туды, дзе вісла кабура".

Распытваць пра Цанаву ў яго былых саслужыўцаў – гэта як прыйсці з дыктафонам у арцель катаў. "А як сябе паводзіў ваш калега на эшафоце?" – "О, ён паводзіў сябе бездакорна. Вяроўку намыльваў, не шкадуючы мыла, а калі да плахі каго падводзіў, то сякеру не забываўся натачыць".

І гэта будзе праўдай. Нягледзячы на тое, што той кат павесіў невінаватага ці адцяў галаву будучаму народнаму герою.

Неяк на міжнароднай канферэнцыі гісторыкаў, дзе мне, "дылетанту", давялося выступаць з дакладам пра Ларысу Геніюш, з вуснаў даследчыка-прафесіянала прагучала, што "генерал-губернатар М.Мураўёў – амбівалентная (неадназначная) асоба", бо, маўляў, не толькі вешаў паўстанцаў, але і школы ды цэрквы будаваў. Прызнаюся, "дылетант" і тады не змоўчаў. Бо шыбеніца не бывае амбівалентнай!

З тым самым сутыкнецца і чытач кнігі Э.Іофе. У анатацыі і прадмове да яе Цанава – цалкам станоўчы герой. Такім ён з'яўляецца і ў большасці раздзелаў кнігі. Асабліва мяне здзівіла, што аўтар прыводзіць безліч дакументаў, датычных злачынстваў Цанавы, і тут жа сумняваецца, што той "организатор массовых репрессий в Белоруссии". Добра, што хоць у водгуку на мае "100 радкоў" Э.Іофе гэта прызнаў, хоць з агаворкай – "ва многіх выпадках".

Гісторык крыўдуе, што ўсе прыведзеныя факты я вычытаў у яго ж кнізе. Па-першае, далёка не ўсе. Скажам, пра дачыненні Цанавы з Л.Геніюш я ведаў задоўга да знаёмства з працай Э.Іофе. Па-другое, я хацеў акурат падкрэсліць, што, ведаючы пра ўсе грахі Цанавы, аўтар кнігі тым не менш малюе з яго ледзь не ікону: "Лаврентий Фомич – талантливый аналитик, храбрый и очень коммуникабельный человек… хорошо разбирался в экономических, политических, хозяйственных и идеологических вопросах… ему было присуще чувство справедливости… ненавидел клеветников, мошенников и обманщиков… был хорошим семьянином и заботливым дедушкой…"

Э.Іофе ў сваім водгуку на маю "Папаху Цанавы" піша: "Так, Цанава, безумоўна, кат, злачынца, які вінаваты ў многіх палітычных рэпрэсіях, у гібелі многіх людзей". Дык трэба было і кнігу распачаць такой характарыстыкай (што ўспрымалася б цалкам заканамерна), а не распісваць пра заслугі "государственного деятеля и организатора партизанского движения".

Лічу, не мае рацыі Э.Іофе і тады, калі выкрывае "дылетантызм М.Скоблы" адносна піку рэпрэсій у Беларусі. Маўляў, пры папярэдніках Цанавы расстрэльвалі часцей. Ну так, гэта факт агульнавядомы. Аспрэчваць яго я зусім не збіраўся, толькі агаварыўся: усё спазнаецца ў параўнанні. Але параўноўваць лічбы, шчыра кажучы, мне не хочацца. Для мяне Берман, Наседкін і Цанава – аднаго поля ягады.

Для Э.Іофе, як выглядае, не аднаго. Што ж, на чужыя вусты не накінеш хусты.

У дадзенай сітуацыі мяне найбольш цікавіць выдавец кнігі "Лаврентий Цанава". Няўжо выдавецтву "Адукацыя і выхаванне" няма чым заняцца? Няўжо нашы школы і ўніверсітэты цалкам забяспечаны навучальнай літаратурай? Няўжо і далёка не аб'ектыўная кніга пра Цанаву, на думку міністэрскіх чыноўнікаў, – таксама навучальная літаратура? Мне як падаткаплацельшчыку не дае спакою пытанне: чаму ў Мінадукацыі з'явіліся "дубы", якія вырашылі "пашумець" яўна не "сваёй дуброве"?

**Міхась СКОБЛА.**

ЛИКБЕЗ

# Не требуется разрешения…

## Уведомил местную власть о намерении заниматься предпринимательством – и действуй!

*На минувшей неделе появился Декрет №7 «О развитии предпринимательства». Можно с уверенностью сказать, что он во многом облегчит жизнь деловых людей. Если раньше они шагу не могли ступить без разрешения, согласования с властями, различными ведомствами, учреждениями, то теперь любой желающий имеет возможность начать предпринимательскую деятельность, лишь уведомив об этом местный исполнительный орган. Вот что говорится об этом в Декрете:*

3.1. субъект хозяйствования, намеревающийся осуществлять вид экономической деятельности, включенный в перечень, уведомляет об этом местный исполнительный и распорядительный орган посредством подачи письменного уведомления через службу «одно окно» или направления его заказным почтовым отправлением с уведомлением о вручении либо с использованием единого портала электронных услуг. В уведомлении указывается информация о соответствии субъекта хозяйствования, его работников, осуществляемой им деятельности и предназначенных для использования в процессе ее осуществления земельных участков, капитальных строений (зданий, сооружений), изолированных помещений, оборудования, транспортных средств и иных объектов требованиям, предусмотренным законодательством.

Форма уведомления, порядок его направления в местный исполнительный и распорядительный орган, а также порядок учета уведомлений устанавливаются Советом Министров Республики Беларусь.

Информация о полученных уведомлениях (за исключением уведомлений, направленных с использованием единого портала электронных услуг) размещается местными исполнительными и распорядительными органами на их официальных сайтах в глобальной компьютерной сети Интернет не позднее трех рабочих дней со дня получения таких уведомлений;

3.2. со дня, следующего за днем направления уведомления, субъект хозяйствования вправе начать осуществление заявленного в уведомлении вида экономической деятельности независимо от включения информации об этом субъекте, его деятельности и принадлежащих ему объектах в регистры, реестры, базы и банки данных, информационные системы и иные информационные ресурсы, осуществления иных административных процедур с учетом требований, предусмотренных настоящим подпунктом.

Субъект хозяйствования, направивший уведомление об осуществлении деятельности по производству пищевой продукции, обязан в течение месяца со дня направления такого уведомления обратиться в органы и учреждения, осуществляющие государственный санитарный надзор, за получением санитарно–гигиенического заключения, выдаваемого по результатам проведения государственной санитарно-гигиенической экспертизы. Данная экспертиза проводится исключительно на предмет соответствия деятельности субъекта хозяйствования требованиям настоящего Декрета.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Уладзімір КОНДРУСЬ: «Я – сам па сабе»

*Амаль год таму адбыўся працэс над чалавекам, якога судзілі… праз шэсць гадоў за ўдзел у масавых беспарадках падчас Плошчы-2010.*

26 снежня 2016 года суд Маскоўскага раёна Мінска прызнаў **Уладзіміра Кондруся** вінаватым ва ўдзеле ў масавых беспарадках у снежні 2010 года і прысудзіў да паўтара года «хатняй хіміі» з прымусовым лячэннем і наглядам.

У прысудзе быў улічаны тэрмін утрымання пад вартай, а таксама зняты арышт з маёмасці, бо шкода ад злачынства была пагашана.

Нагадаем, што Кондрусь быў затрыманы 14 чэрвеня 2016 года ў межах папярэдняга расследавання. Пасля гэтага ён знаходзіўся ў СІЗА №1 Мінска, дзе трымаў галадоўку. Суд над ім пачаўся 16 лістапада, але працэс ішоў з перапынкам. Пасля таго як у зале суда Уладзімір паспрабаваў ускрыць сабе вены, было вырашана адправіць яго на комплексную псіхолага-псіхіятрычную экспертызу.

*"Сын нідзе не працуе,* – распавяла "Народнай Волі" Галіна Васільеўна – маці Уладзіміра. – *Шчыра кажучы, не ўсё ў яго жыцці добра, але, як кажуць, не хачу выносіць смецце з хаты. Адно магу сказаць: праблем з міліцыяй у яго зараз няма. Сядзіць цэлымі днямі ў інтэрнэце і сацыяльных сетках, нешта там піша..."*

Сам **Уладзімір Кондрусь** таксама не вельмі распаўсюджваецца пра сябе.

*"Пасля суда нават не цікавіўся, калі мой тэрмін заканчваецца,* – кажа ён. – *У міліцыю адзначацца прынцыпова не хаджу, і зараз ніякіх абмежаванняў быццам бы няма. Чым займаюся? Самаадукацыяй. З апазіцыйнымі партыямі і рухамі сувязь не падтрымліваю, я – сам па сабе".*

**Віктар ШПАК.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

# Бяром крэдыты – падае рубель?

Зафіксаваны новы рэкорд: беларусы павінны банкам 2,72 млрд рублёў у выглядзе спажывецкіх крэдытаў. Толькі з пачатку гэтага года на паўсядзённыя пакупкі жыхары краіны ўзялі пад працэнты ў банкаў 996 мільёнаў рублёў. А ўсяго беларусы павінны банкам 8,5 млрд рублёў.

Аб чым гэта сведчыць? Ці не здарыцца так, што грошай насельніцтва набярэ, а аддаваць не будзе чым? Зарплаты ў краіне амаль не растуць, да праславутых 500 долараў у бюджэтнай сферы, як заявіла днямі міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч**, нават да канца года не атрымаецца выйсці.

Вядомы ў краіне эканаміст, старшы аналітык Альпары **Вадзім Іосуб** бачыць больш станоўчага, чым негатыўнага, у дынаміцы росту спажывецкіх крэдытаў.

– Ёсць такое памылковае меркаванне: чым менш у людзей грошай, тым больш яны маюць патрэбу ў крэдытах, – кажа Вадзім Іосуб. – На самай справе ўсё роўна наадварот. Калі ў людзей мала грошай, яны не ў стане разлічвацца па крэдытах, а рост дабрабыту павялічвае попыт на крэдыты: людзі, плануючы свой бюджэт, разумеюць, што змогуць гасіць запазычанасць, і бяруць пазыку ў банку. Цяперашні рост спажывецкага крэдытавання звязаны з аб'ектыўнымі прычынамі. І ў першую чаргу з ростам заробкаў у рэальным выражэнні, а ў апошні час можна нават казаць і пра рост наяўных даходаў. Акрамя таго, таксама можна адзначыць і рост прапаноў з боку банкаў.

**– Што вы маеце на ўвазе? Працэнтныя стаўкі па крэдытах усё роўна застаюцца досыць высокімі. Пад 6–8 працэнтаў гадавых, як, напрыклад, у Польшчы, купіць машыну ў крэдыт беларусы не могуць.**

– Зараз для банкаў фізічныя асобы як пазычальнікі ўяўляюць большую цікавасць, чым юрыдычныя асобы. Таму што сур'ёзныя юрасобы з добрымі бізнес-планамі, з маёмасцю, якую можна закласці, ужо закрэдытаваны. А неплацежаздольныя прадпрыемствы банкам не патрэбны. Па бягучай статыстыцы відаць, што фізічныя асобы ствараюць для банкаў значна менш праблем, чым юрыдычныя. Працэнт дрэнных крэдытаў фізічных асоб значна ніжэйшы, чым працэнт дрэнных крэдытаў юрыдычных асоб. Таму банкі, са свайго боку, актыўна пашыраюць крэдытаванне людзей, з'яўляюцца такія прапановы, як віртуальныя крэдыткі, гэта калі ўвесь працэс афармлення, нават падпісанне дамовы, адбываецца ў інтэрнэце. Акрамя таго, некаторыя банкі з 1 снежня павялічылі максімальныя сумы, якія можна ўзяць у крэдыт.

**– То бок у тым, што беларусы сталі часцей браць спажывецкія крэдыты, больш карысці?**

– У любой з'явы ў эканоміцы ёсць два бакі, ніводную з'яву нельга ахарактарызаваць як выключна на добрую ці выключна дрэнную. Тое ж самае можна казаць і пра рост крэдытавання фізічных асоб. З аднаго боку, гэта сведчыць аб паляпшэнні дабрабыту людзей і праз гэта аб росце гандлю і росце эканомікі. Але, з іншага боку, рост крэдытавання тэарэтычна аказвае ціск на цэны і на курс рубля, ва ўсялякім выпадку ў той яго частцы, калі крэдыты бяруцца на куплю спажывецкага імпарту. І такія наступствы мы і назіраем. Апошнім часам усе тры валюты – долар, еўра і расійскі рубель – дэманструюць рост у адносінах да беларускага рубля.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ДАРЭЧЫ

## Долар расце…

Учора на Беларускай валютна-фондавай біржы адбыліся чарговыя таргі. Амерыканская валюта зноў пабіла гадавы максімум, раней усталяваны на мінулым тыдні. Курс долара вырас на 0,0113 рубля – да 2,0227 рубля.

А вось еўра і расійскі рубель крыху патаннелі. 1 еўра – да 2,396 рубля, курс расійскага рубля знізіўся да 3,4 рубля за 100 расійскіх рублёў.



Народная Воля http://www.nv-online.info 5 СНЕЖНЯ 2017 г.

ПАЗІЦЫЯ

# Ігар ЛЯЛЬКОЎ: «Беларусь знаходзіцца «на пачатку гібрыднай вайны з Расіяй»

Ігар Лялькоў, былы намеснік старшыні Партыі БНФ, абраны старшынёй міжнароднай камісіі руху салідарнасці "Разам" (арганізацыя не зарэгістравана ў Беларусі).

На пасяджэнні сойма ён выступіў з дакладам "Пашырэнне прасторы "русского мира" як ключавы элемент сучаснай імперыялістычнай палітыкі Расіі ў дачыненні да Беларусі. Ацэнка небяспекі і магчымыя метады процідзеяння".

На думку палітыка, Беларусь знаходзіцца "на пачатку гібрыднай вайны з Расіяй". *"Беларуская дзяржава і грамадства павінны зрабіць усё магчымае, каб не дапусціць перарастання гэтага канфлікту ў актыўную фазу",* – сказаў ён.

СІТУАЦЫЯ

# Цяжка біцца з міліцэйскім бязмежжам

Актывіст з Кобрына Аляксандр Мех вырашыў абскардзіць рашэнне раённага суда ў абласной інстанцыі. Сапраўды, як можна змірыцца з тым, што ён зайшоў да сябра, каб дапамагчы яму ў гаспадарчым пытанні, а калі выйшаў на вуліцу, амапаўцы напалі на яго і беспадстаўна абвінавацілі ў непадпарадкаванні? Суд нават не зацікавіўся, чаму яны раптам паўсталі на дарозе хлопцаў. А таму, што А.Мех выпадкова знайшоў у кватэры такога ж, як ён, актывіста праслухоўку.

Думаеце, суддзя Брэсцкага абласнога суда прыслухалася да довадаў Аляксандра Меха? Дзе там!

Застаецца спадзявацца на справядлівасць Вярхоўнага суда, куды А.Мех мае намер звярнуцца. Ён сказаў: "Я хачу справядлівасці, а не апраўдання".

**Рыма КУХАЛЬСКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# 8 гадоў калоніі з канфіскацыяй

Учора суд Мінскай вобласці вынес прысуд па справе экс-кіраўніка Салігорскага раёна Аляксандра Рымашэўскага, якога абвінавачвалі ў карупцыі і атрыманні хабару. Былы чыноўнік сваю віну не прызнаў.

Суд прыгаварыў Рымашэўскага да 8 гадоў ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй. Паводе дадзеных дзяржабвінаваўцы, Аляксандр Рымашэўскі атрымліваў хабар чатыры разы. Агульная сума "ўзнагароджання" – 16.900 долараў.

СТАЛІЦА

# Прадаецца… гатэль за 30,3 млн долараў

Пяцізоркавую гасцініцу пад брэндам Hyatt планавалі адкрыць у Мінску на вуліцы Нававіленскай яшчэ да чэмпіянату свету па хакеі 2014 года. Будаваць яе пачалі ў 2010 годзе, але ў 2015 будоўля была замарожана з-за недахопу сродкаў, а кампанія-забудоўшчык «Сыравінныя рэсурсы» пачала працэдуру банкруцтва.

З верасня 2015 года прымаліся неаднаразовыя спробы знайсці новага інвестара і прадаць яму будынак. Чарговы аўкцыён намечаны на 16 студзеня 2018 года. За апошнія паўгода комплекс патаннеў амаль на 5,5 млн рублёў і прапануецца сёння за 60.996.000 рублёў, што складае прыблізна 30,3 млн долараў.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

# АЛХИМИК

## Это интервью, можно сказать, чистосердечное признание в совершении уголовных преступлений. И, возможно, оно так бы и осталось только в виде диктофонной записи, если бы не случайная встреча…

*Знакомый поделился новостью. У него заболел отец. Рак, последняя стадия, врачи даже не брались лечить. Мужчина уже не мог ходить, фактически лежал и умирал. Но потом дети отправили его в американскую экспериментальную клинику, куда на лечение берут только безнадежно больных. В результате отец моего знакомого на данный момент бодр, весел и уже не только ходит, но зимой даже возле дома сам расчищал дорожки от снега. Американские доктора добились ремиссии. Мой друг просто счастлив!*

*Вот после этой истории я приняла решение: интервью надо печатать. Хотя, конечно, далеко не все истории лечения в экспериментальных клиниках имеют счастливый финал. И многое в словах моего собеседника наверняка вызовет возмущение и протест профессионалов. Но он работает в той сфере медицинской науки, о которой в Беларуси либо не говорят вообще, либо категорически отвергают.*

– Я долгое время занимался медицинской наукой. Работал и в Беларуси, и в Москве, даже какое-то время – со сборной СССР. После Чернобыльской аварии, когда стало понятно, что с оценкой воздействия радиации на организмы людей возникла полная неразбериха, я заинтересовался этой темой. Встретился с тогдашним первым секретарем Могилевского обкома партии Василием Севостьяновичем Леоновым, с депутатами Верховного Совета СССР от Беларуси и начал работу по этой тематике. Но потом грянул 1991 год. У Василия Севостьяновича начались проблемы, и у меня начались проблемы: недруги попытались обвинить в том, что я приехал в Чернобыльскую зону, чтобы делать опыты над людьми. Из прокуратуры пришли вести, что вот-вот буду вызван на допросы. И посадили бы меня, как пить дать, еще навесили бы клеймо «доктора Менгеля белорусского народа». Но я спасся тем, что уехал в Словакию, и там вновь вернулся к научной работе. Сначала это было создание биодеградируемых перевязочных материалов…

**– ???**

– Это, например, если вы вату накладываете на рану, то потом ее не надо снимать – она рассосется сама. Или, например, бинт накладываете на ожог, и потом его не надо отдирать с болью. Однако мозг ученого работает в разных направлениях. И так получилось, что с помощью этого материала я окутал магнитные частички и получил очень удобный инструмент, чтобы, например, выделять и вылавливать из крови раковые клетки, которые циркулируют на начальной стадии заболевания или после химиотерапии. Идея была признана очень перспективной. На продолжение работ и усовершенствование метода я получил деньги от одного весьма богатого человека. Таким образом, с 2000 года я получаю на свои исследования финансирование из частных источников. Если хотите, работаю «придворным алхимиком».

**– Что двигало человеком, который, по сути, купил и вас, и вашу разработку?**

– Богатые люди, которые выделяют деньги на такие исследования, ждут, что однажды я сделаю их богатыми.

**– Этот человек связан с фармацевтической промышленностью?**

– Нет, он дипломат. В свое время он пытался подключить американских миллиардеров, чтобы в Словакии создать этакий Центр высоких технологий и реализовывать в нем подобные идеи и проекты. Однако в силу разных обстоятельств проект не состоялся, он отозвал меня на работу в Москву.

Мы работали на базе одного известного российского института в очень хорошо оснащенной лаборатории. В 2006 году я пришел к выводу, что единственным отличием крови больных раком от крови нераковых больных (исследовались женщины с раком молочной железы и женщины с фибромастопатиями) является наличие дополнительных антител. Почему?.. Что это значит?.. Много часов я провел во встречах, разговорах, дискуссиях с людьми, которые работают над темой рака, и однажды в США пришло озарение: рак – это, возможно, аутоиммунное заболевание. То есть сама иммунная система человека атакует естественные защитные механизмы и позволяет неопасным для организма клеткам разрастаться так, что они начинают вредить, убивать организм.

У официальной медицины, напомню, нет единого мнения по поводу причин возникновения онкологических заболеваний. А мы с коллегами начали работать именно в этом направлении. И в силу семейных обстоятельств мне пришлось очень скоро применить свой принцип на практике.

**– Что произошло?**

– Мой внучатый племянник, семилетний мальчик, заболел нейробластомой. Его сначала лечили химиотерапией, и болезнь отступила, он даже в школу вновь начал ходить, а потом прорвалась устойчивая фракция раковых клеток и буквально за месяц поразила весь организм. Были метастазы в костях, у него начались жуткие боли, врачи сказали матери, что ничем помочь не могут, снабдили ее наркотиками, и она колола их буквально каждые полчаса, потому что ребенок плакал от боли. В общем, мать – дочка моего двоюродного брата – просто «изнасиловала» меня. Она не могла, ничего не предпринимая, смотреть на то, как умирает ее сын. «Делай что угодно! Делай что-нибудь!» – умоляла она меня. И я просто не смог ей отказать.

Хотя как врач я знал, что неутвержденные методы лечения применять нельзя. Что за это грозит до семи лет лишения свободы. Но я не смог держаться в стороне. Вернее даже не я один, мы – группа единомышленников. Конечно, каждый понимал, что мы нарушаем закон. Но с другой стороны был умирающий ребенок… В общем, мы рискнули. И это помогло. По крайней мере жуткие боли исчезли, мальчик прожил еще семь месяцев.

Вы можете спросить: почему я все-таки считаю этот первый опыт успешным? Отвечаю: качество жизни ребенка в эти семь месяцев значительно улучшилось, он не сходил с ума от болей. Я считаю, что он умер от последствий химиотерапии: были повреждены тромбоциты, была тромбоцитопения (это снижение тромбоцитов в крови в силу разных причин), которая нарастала. Ему несколько раз делали переливание тромбоцитарной массы, но он все-таки угас…

Мы осмелели. Мы использовали вполне доступный препарат, который по принципу действия является иммуномоделирующим, и в узком кругу врачей начали вводить его в лечение. По сути – пытались спасти людей, которые уже умирали, которые уже были нечувствительны к химиотерапии. По форме – совершали уголовное преступление.

Однако наше лечение действительно вызывало остановку роста опухоли. То есть принцип, из которого мы исходили, оказался правильным: рост опухоли по своей природе имеет аутоиммунный характер. Однако сказать, что мы решили проблему, конечно, нельзя, потому что рак всегда вызывает в организме человека целый букет дополнительных процессов, которые потом идут независимо…

Мы пролечили более 300 человек: 70 процентов выжили, 30 – погибли. Но это ведь не были официальные клинические испытания, потому цифру либо принимайте на веру, либо не принимайте, – не в этом суть.

**– Правильно ли я поняла, что даже если человек смертельно болен и абсолютно понятно, что он умрет, у нас все равно не допускается никакое отступление от утвержденных методик?**

– Да. Нельзя! Запрещено! Даже если человек сам просит. В противном случае врач тут же станет объектом атаки своих коллег. Вот такая ситуация.

В каком-то обобщенном смысле это, конечно, правильно. Потому что могут и со злыми намерениями сформироваться группы «псевдолекарей»: например, кто-то захочет просто содрать деньги с пациентов за, грубо говоря, «примочки от рака». Но в исключительных случаях, в случаях, когда речь идет о спасении жизни человека традиционными, утвержденными, проверенными методами уже просто не идет, в случаях, когда для лечения данного заболевания есть методики, хотя и не утвержденные у нас, видимо, нужно делать исключение.

Но, возвращаясь к нашей теме… Мы начали искать источники финансирования, чтобы провести клинические испытания разработанного препарата. Это очень большие деньги, потому что платить надо за все – независимой клинике, зарплату врачам, администрации, Министерству здравоохранения, у которого заказываешь разрешение… В общем, миллионы долларов. В Англии мы нашли инвестиционный фонд, который выделил на это 10 миллионов фунтов стерлингов в год. Начали клинические испытания в Ростове-на-Дону. Меня, поскольку я не россиянин, как-то очень быстро от всего этого оттеснили (проще говоря, выкинули). Но препарат, который ранее работал, вдруг перестал действовать…

Одним словом, вышел полный крах. Тогда один из инвесторов, американец, решил все-таки вернуть меня в игру. Мы опять начали работать, разработали новую, более эффективную методику и, главное, поняли, почему произошел сбой при клинических испытаниях в Ростове-на-Дону.

Год я работал в Швеции за американские деньги в очень хорошо оборудованной лаборатории …

**– Это какая-то частная лаборатория?**

– Нет. Просто надо платить за ее использование, за реактивы, за проживание и тому подобное. Все это в мире давно решается: если компания платит за какого-то исследователя, то он может работать в любой стране мира, где угодно.

В общем, я доказал, что потеря препаратом активности была связана с одной особенностью в технологии. То есть на заводе была немного изменена технология изготовления (даже название препарата не меняли), и это привело к потере биологической активности. Мы нашли партнера в Англии, заплатили за изготовление новой партии препарата, сейчас готовим клинические испытания на Западе.

**– А в Беларуси?**

– Тут было бы дешевле, конечно. Но мой партнер не соглашается, потому что в мире итоги этих испытаний не признают: Беларусь не является референтной страной. Они больше англоговорящие страны признают: США, Великобританию, Новую Зеландию, Австралию, Канаду…

Вторая проблема – это огромное химиотерапевтическое лобби. Это ведь чрезвычайно выгодный бизнес: чуть-чуть продлевать жизнь людей на очень дорогих препаратах. Естественно, заинтересованные компании не откажутся от такой возможности зарабатывать и будут всячески мешать тем, кто ищет другие способы избавления человечества от рака. И возможностей помешать у них много. (И тут я не о Беларуси говорю, а о большом мировом фармацевтическом бизнесе.)

Поэтому сейчас мы приняли решение переориентироваться с рака на болезнь Альцгеймера. Это, с одной стороны, более безопасно, а с другой – это тоже социально значимая болезнь. И не только потому, что широко распространена. Дело в том, что вся семья, где есть такой больной, оказывается просто парализованной.

**– По-вашему, принцип лечения один и тот же?**

– По нашему предположению – да. Это тоже аутоиммунное заболевание, то есть природа одна и та же. Как, кстати, и старение. Исследователи всего мира сейчас ищут «эликсиры молодости», шейхи и президенты лично финансируют такие работы, желая продлить собственную жизнь. И это очень хорошо, это великолепно! Так как старение есть аутоиммунный процесс, если кто-то найдет «эликсир молодости» – значит, с высокой вероятностью могу утверждать, что будет найдено и лекарство от рака.

Чтобы было более понятно, поясню. Наш комплекс лечения состоит из двух процедур: плазмоферез, то есть удаление плазмы с вредными иммуноглобулинами, и второе – введение специального иммуномоделирующего препарата. Уже сейчас богатые люди для продления жизни активно используют плазмоферез. В России, например, многие высокопоставленные чиновники в профилактических целях чистят кровь каждый квартал. В Беларуси эта процедура для проведения в частных клиниках запрещена, а в государственных больницах она применяется только по узкому кругу заболеваний. А вот в России это уже абсолютно доступная, хотя и дорогая процедура.

**– Нам бы проблемы арабских шейхов и российских олигархов! Для многих белорусов проблема не в отсутствии «эликсира молодости», а в том, доживем ли до пенсии.**

– Белорусская система больна синдромом ИБД – имитации бурной деятельности. Хотя на самом деле, если остро стоит вопрос об увеличении средней продолжительности жизни, надо не лозунги предлагать, а конкретные меры. Ну, например, население надо массово просканировать и на ранней, доклинической, стадии определить, к какой группе риска – сердечной, неврологической, онкологической – человек относится. Для этого, конечно, должна быть создана большая система со многими компонентами – и организационными, и материальными. Хотя, в принципе, проблема решаема. Подчеркиваю – в принципе, но, увы, не на практике.

**– Вы так смело говорите, хотя будет решена только проблема диагностики. А лечение?**

– На ранней стадии все хорошо поддается лечению. Даже рак. В первой части нашей беседы мы говорили о том, как справиться с поздними стадиями заболевания. Но до них с помощью профилактического скрининга можно просто не доводить. Или, по крайней мере, максимально протянуть время до наступления клинической стадии заболевания, когда боли появляются, когда человек уже не может работать. И, собственно, в этом задача медицины. Она ведь не берется за то, чтобы человек жил вечно. Это и не нужно. Но сделать комфортным и активным проживание хотя бы до 70 лет – это вполне реально в настоящий момент.

**– Если, конечно, богатые и влиятельные фармацевтические компании все это не заблокируют…**

– Тут вы абсолютно правы: если все люди до 70 лет будут более-менее здоровы, никто не будет продавать квартиры-машины, чтобы оплатить дорогостоящие лекарства и дорогостоящее лечение, это ударит по бизнесу очень влиятельных семей. И тут я не столько о Беларуси говорю, сколько обо всем развитом мире, ведь деньги крутятся огромные. Кстати, эксперты крупных фармацевтических компаний, как правило, дают весьма скептические заключения о действительно революционных, прорывных для лечения того или иного заболевания препаратах. Видимо, не хотят потрясений на своем рынке.

**– Но есть ведь и высшее провидение. Если у эксперта кто-то заболеет раком, то куда он побежит за помощью? Наверняка к тому, кто правдами-неправдами, но может помочь. Официально или неофициально, легально или нелегально – это в безвыходных ситуациях интересует меньше всего...**

– Да, это так. У нас был эксперт, у которого жена умерла от рака. Как потом выяснилось, он сам пытался ее лечить непроверенными методами…

Если говорить лично обо мне, то да, не буду скрывать, в частном порядке люди обращаются. В конце концов не все могут поехать в США или Израиль, где есть экспериментальные клиники. Однако если только вы где-то скажете «Вот этот человек лечит рак непроверенными методами», то в течение недели я буду сидеть в тюрьме. И никого не будет интересовать, что я неутвержденный препарат дал человеку, которого официальная медицина и так обрекла на смерть.

**– Рак считается если не проблемой №1, то проблемой №2 на данный момент. Почему в нашей стране все это не делать абсолютно легально, абсолютно нормальным путем, если так или иначе речь идет о безнадежно больных людях? Ведь, как я понимаю, в США или Израиле о здоровье своего населения заботятся не меньше, чем в Беларуси. Но ведь разрешают…**

– Если бы это было узаконено, если бы всё делалось не по принципу шарашкиных контор или «мы с тобой договоримся», а на государственном уровне, то, конечно… Но для этого кто-то должен принять решение и воплотить его в жизнь. На мой взгляд, это хорошая идея. Реализация такого проекта позволит, как магнит, притягивать в Беларусь самые смелые, самые передовые разработки в области лечения онкологических заболеваний, если, допустим, будет решено сконцентрироваться только на них. Но я совсем не уверен, что в нашей стране такое решение может быть воплощено в жизнь. У нас ведь все забюрократизировано донельзя, у нас проблема – назначить пациенту препарат, проверенный и используемый во всем цивилизованном мире. Хотя, повторяю, это очень перспективное направление. Возьмем тот же Израиль. Весь арабский Восток лечится в Израиле, все госпитали забиты богатыми арабами, хотя вроде бы как страны все друг с другом воюют и враждуют. Почему? Потому что в Израиле реализуют все медицинские новинки и без всякой лишней бюрократии. И страна получает огромные деньги от оказания клинических услуг.

**– А как проходят клинические испытания? Что в них «страшного»?**

– Отбираются две группы пациентов, которые соответствуют друг другу по полу, по возрасту, по тяжести заболевания. Назначение препарата – случайное: никто не может знать, что он получает. Даже врачи не знают, дают они пациенту новый препарат или плацебо – пустышку.

Если говорить о нашем препарате, то особенность его испытания еще и в том, что оно должно проводиться при отсутствии химиотерапии. А кто согласится отменить раковому больному химиотерапию? Такая вот сложность…

**– Вы резко отрицательно относитесь к химиотерапии. Правильно я поняла?**

– Да, я считаю, что это продление страданий и выкачивание денег (в белорусском случае – из бюджета). Спасают раковых больных только при ранней стадии диагностирования: когда опухоль вырезают, и химиотерапия, в общем-то, уже не нужна, но ее все равно делают. Если удалили очаг со всеми поврежденными клетками, то потом можно и яду линуть – здоровый организм уже выдержит. Если же рак распространился, то химиотерапия, по моему глубокому убеждению, только убивает. Да, как любой яд, она уменьшает количество быстроразмножающихся клеток, раковых клеток, но она поражает и здоровые клетки. И человек часто умирает, по сути, от осложнений химиотерапии.

Иммунная система это наш предатель – она активно участвует в нашем убийстве. И мы это доказали в экспериментах. Критики, конечно, могут сказать, что модельные раки очень сильно отличаются от естественных. Это действительно так! Но все же, когда мы в ходе экспериментов пересаживаем мыши или крысе клетки искусственной опухоли, сделав ее иммунную систему неактивной, опухоль не растет…

**– Ну что ж, желаю вам получить Нобелевскую премию за изобретение способа избавления человечества от рака. Хотя если такое случится, то, понятно, что получите вы ее не как белорусский ученый. Возможно, тогда в родной стране вам будет грозить не уголовное преследование, а уважение и почет.**

**Светлана КАЛИНКИНА.**

ОТ РЕДАКЦИИ

Просим не звонить в редакцию и не просить координаты нашего собеседника по той причине, что в вашей семье кто-то смертельно болен и в белорусских клиниках ему не могут помочь.

Очень просим не воспринимать этот материал как пропаганду нетрадиционных методов лечения рака или как сомнение в компетентности белорусских врачей.

Это интервью – по сути, постановка проблемы. Что надо сделать, чтобы белорусская медицина находилась на передовых позициях мировой науки? Возможно ли такое вообще?

Наш собеседник считает, что можно и нужно. У Министерства здравоохранения, других государственных ведомств, конечно, может быть другое мнение. И «Народная Воля» готова его выслушать.

БІЯТЛОН

# Дар'я Домрачава не раскрывае карты

*Трохразовая алімпійская чэмпіёнка пакуль не ў лепшай форме.*



Сезон для біятланістаў толькі пачаўся, спартсмены, што называецца, раскатваюцца. Хаця першы этап Кубка свету, які прайшоў у шведскім Эстэрсундзе, быў для беларусаў нечакана прыемным: **Надзея Скардзіна** ў пэўным сэнсе сенсацыйна ўпершыню ў сваім жыцці выйграла гонку на спаборніцтвах такога маштабу.

А вось **Дар'я Домрачава** пакуль не радуе. Больш за тое – спрынтарская гонка аказалася для трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі проста правальнай. Пасля таго як у спрынце на першых двух агнявых рубяжах стрэліла ў "малако", Дар'я наогул вырашыла сысці з дыстанцыі.

Зрэшты, усе разумеюць, што этапы Кубка свету для спартсменаў – гэта ўсяго толькі генеральная рэпетыцыя перад лютаўскімі стартамі на Алімпіядзе ў карэйскім Пхенчхане. Натуральна, што кожны біятланіст працуе па сваім плане і не асабліва стараецца раскрываць карты перад калегамі. Можа, і Домрачава зараз хоча ўсыпіць пільнасць сваіх сапернiц?

Дарэчы, не так даўно трохразовая алімпійская чэмпіёнка заявіла, што, хутчэй за ўсё, не выступіць на Гульнях-2022 у Пекіне, так што гэтая Алімпіяда можа стаць для Дар'і Домрачавай апошняй.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Фота: sputnik.by

**Пропала собака сенбернар в районе частного сектора по ул.Уральской. Большая белая с коричневыми крапинами, спина и уши коричневые. Не обидьте! Придержите, прикормите.**

**Тревожимся за судьбу собаки. Вознаградим.**

**Обращаться по тел. (8-029) 337-32-60. Домашний в Минске: 245-49-73.**



КАЛЯНДАР

## Пагуляем і папрацуем…

*Хто-ніхто парадуецца: на Новы год запар можна будзе гуляць чатыры дні – з 30 снежня (субота) па 2 студзеня (аўторак). За дадатковы выхадны давядзецца папрацаваць у суботу 20 студзеня.*

*Усяго ў 2018 годзе будзе сем (!) рабочых субот. Па чатыры дні запар не будзем працаваць у сакавіку і ліпені. Змены ў календары звязаны з Міжнародным жаночым днём і Днём Незалежнасці.*

ШАХМАТЫ

# Пераможны паядынак

Зборная Беларусі выйграла матч па складанні шахматных кампазіцый у каманды Данецкай і Луганскай абласцей Украіны – 65,5:54. У кожным з сямі раздзелаў каманды складалі па тры творы на тэмы, зададзеныя арбітрамі з Расіі і Ізраіля, а ў залік ішлі два лепшыя. Беларускія кампазіцыі ўзялі па тры прызавыя месцы ў раздзелах двух-, трох- і шматхадовак, трэцяе месца ў кааператыўных і зваротных матах, першае і трэцяе – у эцюдах, першае – у казачным раздзеле.

З нашых складальнікаў найлепшы вынік паказаў майстар Міхаіл Храмцэвіч – 27,1 бала. На рахунку міжнароднага майстра Віктара Волчака – 12 балаў. Свой унёсак у пераможную "капілку" ўнеслі таксама капітан Віктар Зайцаў, Мікалай Бельчыкаў, Іван Бондар, Аляксандр Булаўка, Аляксандр Варыцкі, Міхаіл Кошаль і Вячаслаў Красічонак.

Са складальнікаў Данецкай і Луганскай абласцей найлепшы вынік у Міхаіла Мішко (22,8 бала), на другім месцы – дырэктар матча Валерый Гарбуноў (12,7). Апрача іх, у склад каманды ўваходзілі капітан Аляксандр Швічэнка, Міхаіл Гершынскі, Дзмітрый Грынчанка, Анатоль Макавецкі, Уладзімір Рабцаў і Віктар Шчарбіна.



Наступная задача Міхаіла Храмцэвіча заняла 2-е месца.

**Белыя:** Крс7, Фg2, Лс1, Лс4, Cd6, Ch1, Ka4, Kd4 (8).

**Чорныя:** Kpd5, Фg7, Ле4, Cd3, Kf1, Kh5, пп. a5, a7, d7 (9).

**Мат у 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі (***220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а***) або на электронны адрас: **vadim_ne67@mail.ru.**

А лепшы эцюд матча склаў беларускі майстар Іван Бондар.

**Белыя:** Kph8, Cg8, пп. d5, e2, f6, g5, h7 (7).

**Чорныя:** Kpe8, Kf5, пп. a5, d6, g2, g6 (6).

**Нічыя.**

Рашэнне: 1.e4! g1Ф 2.ef gf 3.g6 Ф:g6 4.Cf7+! Kpf8! (4…Ф:f7 пат, 4…Kp:f7 пат) 5.C:g6 f4! (5…a4 6.C:f5 a3 7.Cb1=) 6.Cf7! f3 7.Cg8 f2 8.f7 Kpe7 (8…f1Ф пат) 9.Kpg7 f1Ф 10.h8Ф Фf6+ 11.Kph7 Фh4+ 12.Kpg7 Фg5+ 13.Kph7 Kpf8! 14.Фf6! Ф:f6 пат.

## Турнірныя навіны

Кубак Беларусі прайшоў паспяхова ў Гродне... Кубак Беларусі прайшоў па шматгадовай перапынку ў Гродне. Удзельнікі фінальнай часткі змагаліся па алімпійскай сістэме. У хуткіх шахматах (рапідзе) і бліцы прызавыя тройкі ў выніку супалі: 1.Віталь Цецераў, 2.Валерый Казакоўскі, 3.Аляксей Аляксандраў. Сярод жанчын у рапідзе прызёрамі сталі Яна Ільючык, Настасся Зязюлькіна і Ксенія Зелянцова, у бліцы – Яна Ільючык, Ксенія Зелянцова і Аляксандра Тарасенка.

На юнацкім чэмпіянаце свету ва ўзросце да 20 гадоў у Італіі Міхаіл Нікіценка фінішаваў 27-м са 148 удзельнікаў (6 перамог, 3 пройгрышы, 4 нічыі), Вячаслаў Зарубіцкі – 95-м (4 перамогі, 5 пройгрышаў, 2 нічыі). Сярод 89 дзяўчат Вольга Бадэлька заняла 12-е месца (+5-2=4), а Ганна Сташыц была 69-й (+3-5=3).

## Паводле матываў казак

Азербайджанская камісія па шахматнай кампазіцыі запрашае беларускіх складальнікаў да ўдзелу ў конкурсе «Джыртдан». Гэтае імя належыць папулярнаму герою азербайджанскіх казак – хлопчыку з зусім маленькім ростам, але з добрай і смелай душой, які здолеў перахітрыць Дзіва-велікана і ўратаваць сваіх сяброў. У конкурсе ўдзельнічаюць кампазіцыі з колькасцю фігур не больш за пяць. Раздзелы: двух-, трох-, шматхадоўкі, эцюды. Задачы (у фармаце Word) і эцюды (у фармаце PGN) – не больш за тры ад кожнага аўтара – можна дасылаць да 1 сакавіка 2018 года на адрас дырэктара конкурсу Эльмара Абдулаева: **abdullaev-elmar@bk.ru.**

### Праверце рашэнні

Задача ад 21 лістапада рашаецца: 1.Kpb2! ~ 2.c4+, 1…Лg6 2.Kf3, 1…Лg4 2.Kc4, 1…Cg2 2.Kd7, 1…Ce6 2.Ф:c7.

Першымі правільна адказалі Ігар Ананіч, Васіль Жуковіч, Сяргей Цяльпук.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

ФУТБОЛ

## Вадзім ЖУК:

# «Расія і з гэтай групы можа не выйсці»

*Вядомы беларускі футбольны суддзя пракаментаваў "Народнай Волі" вынікі жараб'ёўкі чэмпіянату свету па футболе-2018.*



Нагадаем, што чарговае сусветнае першынство пройдзе ў Расіі з 14 чэрвеня па 15 ліпеня. Днямі ў Маскве прайшла жараб'ёўка турніру, і практычна ўсе спецыялісты сыходзяцца ў адным: абсалютна выпадкова гаспадарам чэмпіянату пашэнціла з сапернікамі. Вось склад усіх груп:

**Група А:**
Расія, Саудаўская Аравія, Егіпет, Уругвай.

**Група В:**
Партугалія, Іспанія, Марока, Іран.

**Група С:**
Францыя, Аўстралія, Перу, Данія.

**Група D:**
Аргенціна, Ісландыя, Харватыя, Нігерыя.

**Група Е:**
Бразілія, Швейцарыя, Коста-Рыка, Сербія.

**Група F:**
Германія, Мексіка, Швецыя, Паўднёвая Карэя.

**Група G:**
Бельгія, Панама, Туніс, Англія.

**Група Н:**
Польшча, Сенегал, Калумбія, Японія.

– Для расіян група і праўда не самая складаная, – кажа суддзя міжнароднай катэгорыі **Вадзім ЖУК**. – Але, улічваючы, як зборная Расіі апошнім часам гуляе, не выключаю, што і з гэтай групы яна можа не выйсці. Хаця такі песімістычны расклад стане для гаспадароў чэмпіянату самай сапраўднай трагедыяй. А з жараб'ёўкай ім вельмі пашанцавала! Да таго ж апошні матч у групе расіяне будуць праводзіць з найбольш моцнай камандай Уругвая, і гэта таксама для іх добра.

**– На першынство не патрапілі такія футбольныя гранды, як Італія, Галандыя, Чылі…**

– Што зробіш, калі гэтыя зборныя не пацвердзілі свой клас. Крыўдаваць варта толькі на сябе. Тыя ж галандцы ў апошні час моцна здалі пазіцыі, таму, як кажуць, шанцуе мацнейшым. Але ў той жа час, безумоўна, цяжка ўявіць чэмпіянат свету без зборнай Італіі, якая не будзе ўдзельнічаць у грандыёзным футбольным форуме ўпершыню за 60 гадоў!

**– На каго вы ставіце на будучым першынстве?**

– Пакуль яшчэ рана казаць, трэба будзе глядзець, у якой форме каманды падыдуць да чэмпіянату. Але ж традыцыйна першую скрыпку будуць іграць зборныя Бразіліі і Аргенціны, а таксама Англія, Францыя і Германія. Мяркую, што чэмпіён будзе менавіта з гэтай пяцёркі.

**Алесь СІВЫ.**





НАША ПЕРЕПИСКА

## Вреден ли хлористый калий?

**Ярославу Козлову, Витебск.** При внесении в почву очень небольших доз (1–2 столовые ложки на 1 кв. м) хлористый калий не вреден для растений, так как хлор смывается при поливе или прошедшим дождем. Обычно это удобрение вносят осенью перед перекопкой почвы.

**Ольге Запрудиной, Вороновский район.** Зола от сжигания дров – хорошее щелочное удобрение. Она быстро раскисляет почву. Применять ее можно под все культуры. Если золы у вас мало, то ее в первую очередь надо внести под кабачки, огурцы, картофель, томаты, тыкву, перцы и баклажаны.

**Валентине Закревской, г.Жодино.** Опилки не являются источником минерального питания растений. Их вносят для улучшения физических свойств тяжелых почв, добавляют в почву как рыхлящий материал.

**Сергею Добрышеву, г.Барановичи.** Быстрому созреванию компоста из различных отходов, навоза, торфа способствует перекладка его с одного места на другое один раз в месяц. Чтобы масса постоянно была влажной, компостную кучу нужно поливать теплой водой (40–45°С) с коровяком (2 кг на ведро воды).

**Ирине Грудыно, г.Светлогорск.** Яичная скорлупа снижает кислотность почвы, улучшает ее структуру. Перед внесением ее моют (чтобы не привлекала мух), просушивают и тщательно измельчают. На 1 кв. метр можно добавить скорлупу от 100 сырых яиц. Скорлупу вареных яиц добавляют в компост, а не в почву, так как при варке кальций вымывается.

**Зинаиде Солонцовой, Круглянский район.** Полное (или сложное) удобрение, о котором вы узнали из специальной литературы, – это те минеральные удобрения, которые кроме азота, фосфора и калия в своем составе имеют и микроэлементы: железо, цинк, молибден, магний и другие.

ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Свои подвои

Я выращиваю саженцы яблонь за два года. Осенью или в начале зимы из созревших яблок антоновки выбираю семена, просушиваю их и храню при температуре +10°С до февраля.

В начале февраля смешиваю семена с чистым промытым речным песком и высыпаю в мешочек из старого капронового чулка. Два дня смачиваю их водой при температуре +20°С.

Замоченные семена в мешочке помещаю во влажный, тоже промытый песок, насыпанный в деревянный ящик, и ставлю в погреб, где температура +1…+5°С.

Периодически, через 10–15 дней, проверяю состояние семян. Если появилась плесень, промываю их чистой водой. Песок в ящике всегда влажный, без застоя воды. Во второй половине апреля семена обычно прорастают и готовы к высеву в почву.

После схода снега проросшие семена высеваю на грядку. К осени вырастают сеянцы высотой 60–70 сантиметров с толщиной штамба до 5 миллиметров. На зиму сеянцы оставляю на месте. Зимой между строчек сеянцев утаптываю снег, таким образом предохраняя растения от мышей.

В конце марта – начале апреля делаю прививки способом копулировки. К осени вырастают нормальные деревца-однолетки. На постоянное место высаживаю их весной.

**Михаил ЛАЗАРЕНКО, Березинский район.**

ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Первый блин… комом

*Слышала и читала в газетах о том, что у нас в стране можно выращивать арбузы. Попробовала – не получилось. Вначале плети хорошо развивались, а потом начали вянуть. В чем дело?*

**Елена ИСАЧЕНКО.**

*Столинский район.*



Увядшие плети и листья – первый признак фузариоза. Прежде всего необходима предпосевная обработка семян: обеззараживание 0,5-процентным раствором медного купороса в течение 20–24 часов. Можно семена ошпарить кипятком и тут же промыть холодной водой, а затем обсушить.

Сеять арбуз нужно на хорошо освещенном солнцем участке, лучше на высокой грядке, чтобы было теплее. При первых признаках болезни (подвядающие плети) надо срочно выкопать с комом земли всё растение и уничтожить его, так как вокруг уже идет накопление инфекции.

Устойчивости к фузариозному увяданию способствует повышенный уровень фосфорного питания арбуза. Рекомендуется при посеве внести (под грабли) 1–2 столовые ложки суперфосфата на 1 кв. метр почвы или с появлением 2–3 настоящих листьев подкормить растение вытяжкой суперфосфата (1 столовая ложка на ведро воды).

Арбузу нужны широкие, до 140 сантиметров, междурядья, чтобы земля хорошо прогревалась. И, конечно, нельзя под арбузы вносить свежую органику, можно только перегной.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## А у вас на даче тепло?

Перед тем как закрыть окна на зиму, вымойте стекла раствором, приготовленным из воды и поваренной соли.

Вместо оконной замазки можно использовать газетную бумагу, размоченную в воде. После высыхания она будет долго сохранять свою прочность.

Полностью затыкает щели поролон, а воздух в поролоновых порах служит дополнительной изоляцией.

Не хотите использовать поролон (или у вас его нет) – воспользуйтесь резиновыми профилями. Они достаточно гибкие, и окна можно открывать и закрывать в любое время.

Для утепления балконной двери подойдет любой толстый материал (например, ватин), который крепят к двери крючками или гвоздями.

На время очень сильных морозов можно попробовать такой способ утепления окон: полиэтиленовая пленка, вырезанная по размеру окна, прикрепляется рейками или кнопками к раме. Сверху оставляется зазор в 10–15 см для циркуляции воздуха.

Для утепления окон можно использовать пенопласт, остающийся от упаковок. Он не пропускает воздуха и долго сохраняет белый цвет.

Чтобы в помещении не происходила потеря тепла, не следует ставить мебель вблизи приборов отопления.



**Адрас рэдакцыі:**
**220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**

**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.12.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 4631.